СОНЦА:
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 7.15, 17.32, 10.17;
Віцебск — 7.08, 17.19, 10.11;
Магілёў — 7.04, 17.21, 10.17;
Гомель — 6.59, 17.21, 10.22;
Гродна — 7.30, 17.47, 10.17;
Брэст — 7.27, 17.51, 10.24.

МЕСЯЦ:
Поўня 18 лютага.

ІМЯНІНЫ
Нічыпара, Інакенція, Панкрата, Генадзя, Маркела;
Марты, Малгажаты.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

22 ЛЮТАГА 1992 г.
субота, № 38 (21816)

## РОЗГАЛАС

### БЕЗ АБРАЗЫ ГОНАРУ АФІЦЭРА

**будуць вырашацца ўсе вайсковыя пытанні ў сувязі з рэарганізацыяй Узброеных Сіл рэспублікі,— сказаў на сустрэчы з ваеннаслужачымі ў Лідзе Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч**

— Я мушу зазначыць, што гэта не першая мая сустрэча з вайскоўцамі. Раней я сустракаўся з камандаваннем Беларускай ваеннай акругі, ваеннаслужачымі шэрагу воінскіх часцей. Зыходзячы з гэтых сустрэч і размоў, хачу зазначыць: ёсць разуменне, што ўсе складанасці гэтага жыцця трэба вырашаць усім разам. І Вярхоўнаму Савету, і ўраду рэспублікі, і камандаванню акругі.

Ёсць і галоўнае: баяздольнасць, парадак у войсках акругі, чаго нельга сказаць аб іншых дзяржавах былога Саюза, — так пачаў сваю размову з вайскоўцамі С. Шушкевіч.

Цікавасць да сустрэчы была вялікая. Аб гэтым сведчаць тыя факты, што аўдыторыя аказалася шматлікай, і амаль кожны прысутны імкнуўся задаць сваё пытанне, каб атрымаць інфармацыю, як кажуць, з першых вуснаў.

Чым у першую чаргу заклапочаны зараз і кіраўнікі рэспублікі, і вайскоўцы?

На сустрэчы С. Шушкевіч адназначна заявіў, што скарачэнне Узброеных Сіл Беларусі непазбежна. Як вядома, парламент прыняў рашэнне аб тым, што наша рэспубліка павінна быць бяз'ядзернай. Гэта значыць, што мы не павінны быць ні ў якіх ваенных саюзах.

На думку Старшыні, арыенцірам можа быць такая колькасць вайскоўцаў: тысяч пяцьдзесят.

З улікам рэформы, што будзе адпрацоўвацца, з войска звольніцца амаль кожны чацвёрты служачы. Што і казаць, лічба вялікая. Таму натуральна, што вайскоўцаў вельмі хвалюе сацыяльная абарона, працаўладкаванне, атрыманне жылля і г. д.

Але галоўнае зараз — гэта вызначыць паслядоўнасць такога пераходу. Рэарганізацыя, што будзе праводзіцца ў войсках Беларусі, будзе, у першую чаргу, вызначацца павагай да гонару і чалавечай годнасці вайскоўцаў. Да вырашэння іх праблем трэба ставіцца чула і ўважліва.

— Як жа быць у такім разе з мясцовымі «князькамі», што часам ігнаруюць інтарэсы вайскоўцаў, адмаўляюць ім у жыллі і г. д.?— запыталіся ў Старшыні афіцэры. У адказ С. Шушкевіч зазначыў, што за парушэнне прынятых законаў вінаватыя будуць карацца самым рашучым чынам. Ён дадаў, што на разгляд чарговай сесіі выносіцца цэлы пакет законаў па ваенных пытаннях.

Што ж, можна сказаць, што сустрэча атрымалася, калі, нягледзячы на ўсе нюансы, узаемапаразуменне ўсё ж было дасягнута. Пацвярджэнне таму — пажаданні вайскоўцаў Старшыні Вярхоўнага Савета і надалей цвёрда трымаць лінію на дэмакратызацыю, рабіць усё, каб не дапусціць вяртання да мінулага.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ.**

### ЮНІСЕФ ГАТОВА ДАПАМАГАЦЬ

**Учора мы расказалі аб чарговай акцыі гуманітарнай дапамогі нашай рэспубліцы, як найбольш пацярпеўшай ад чарнобыльскай катастрофы. І вось новае паведамленне: у таварыстве Чырвонага Крыжа Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча з прадстаўнікамі ЮНІСЕФ — дзіцячага фонду ААН.**

Узначальвае дэлегацыю з дзевяці чалавек, якая прабудзе ў Беларусі тры дні, першы намеснік выканаўчага дырэктара дзіцячага фонду ААН пан Марка-Віянела Кіёда.

Візіт прадстаўнікоў ЮНІСЕФ у РБ мае на сваёй мэце далейшае высвятленне абстаноўкі на тэрыторыі рэспублікі ў постчарнобыльскі час, патрэб, аб'ёму дапамогі, якую неабходна аказаць.

— Мы прыехалі даведацца, — сказаў пан Кіёда, — як у вас вырашаюцца пытанні аховы здароўя, якія медыкаменты, рэактывы і абсталяванне патрэбны ў першую чаргу. Усе нашы намаганні на працягу 40 гадоў існавання былі скіраваны на так званы трэці свет — краіны, якія ўступалі на шлях развіцця. І толькі літаральна два гады назад мы звярнуліся і да праблем Усходняй Еўропы. Мы маем намер сур'ёзна папрацаваць гэтыя тры дні ў вашай краіне, добра высветліць абстаноўку, каб ужо да 2 сакавіка — дня адкрыцця сесіі выканкома ЮНІСЕФ — падрыхтаваць змястоўны справаздачны даклад. Пасля гэтага можна спадзявацца, што будзе наладжана і канкрэтная дапамога.

Антон Раманоўскі, старшыня Таварыства Чырвонага Крыжа Беларусі, сказаў, што цяпер практычная дапамога патрэбна нам як ніколі. Многія маскоўскія вучоныя, спасылаючыся на нейкія даследаванні вынікаў свярдлоўскай радыяцыйнай аварыі, заяўляюць, што ніякіх медыцынскіх наступстваў чарнобыльскай катастрофы няма, што яны прыдуманы. Між тым, хачу сказаць з адказнасцю як урач: медыкаментозны генацыд Беларусі працягваецца. Мы не можам лячыць нашых хворых, бо няма чым і няма дзе, таму мы вельмі спадзяёмся на вашу дапамогу. Мы хацелі б верыць, што яна будзе кароткачасовай: наш народ сам здолее справіцца са сваімі праблемамі...

Адразу пасля гэтай сустрэчы адбылася гутарка членаў дэлегацыі ў Вярхоўным Савеце рэспублікі, а затым пачаліся перагаворы.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## АПЕРАТЫЎНЫ АГЛЯД

### ВЫТВОРЦЫ ПРОСЯЦЬ ПАРАТУНКУ

**ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ.**

◆ На мяжы спынення Гродзенскі гарбарны завод, таму што калгасам і мясакамбінатам нявыгадна прадаваць сваю сыравіну за рублі.

◆ **З-за адсутнасці скуры, камплектуючых часткова прастойвае гродзенская абутковая фабрыка «Нёман». Работнікі прадпрыемства вымушаны перыядычна хадзіць у водпуск за свой кошт. У такім жа цяжкім становішчы, і зноў жа з-за адсутнасці скуры, апынулася Гродзенская пальчаткавая фабрыка. Тут таксама часткова прастойвае абсталяванне.**

**БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ.**

◆ Праз тыдзень-другі можа спыніцца Брэсцкі завод сельскагаспадарчых машын. Сумежныя прадпрыемствы Расіі і Украіны адмовіліся заключаць дагаворы на пастаўку металу.

◆ **Складанае становішча на Лунінецкім заводзе электрарухавікоў. Няма абмотачнага проваду, не хапае паліва. Таму завод працуе толькі ўдзень. Уначы ж жыхары горада, кватэры якіх ацяпляюцца кацельнямі прадпрыемства, застаюцца без цяпла.**

◆ На Брэсцкім панчошным камбінаце прастойвае частка абсталявання. Няма сыравіны, іголак, якія раней купляліся за валюту. На прадпрыемстве ўжо скарочаны работнікі пенсіённага ўзросту. І калі сітуацыя не зменіцца, трэба чакаць масавых скарачэнняў.

◆ **Закрыты ўчастак аднаго з цэхаў Пінскага завода штучных скур. Расфарміравана брыгада, якая выпускае сумкі. З-за адсутнасці неабходнай сыравіны зменшыўся аб'ём вытворчасці, а тое, што ўдалося закупіць, падаражала ў сто разоў.**

◆ На Пружанскім камбінаце будаўнічых матэрыялаў вытворчасць ужо скарочана на 70 працэнтаў, таму што неабходныя састаўляючыя часткова купляліся за валюту. Сёння валюты няма. Значыцца, не будзе і фарбы.

◆ **80 працэнтаў служачых і дапаможных рабочых Баранавіцкага завода аўтаматычных ліній пераведзены на няпоўны рабочы дзень. Прычына ўсё тая ж — няма металу. У такіх умовах заводу нялёгка ўтрымліваць 4 дзіцячыя садкі.**

◆ Вось-вось спыніцца і шклозавод Дамашэўскага камбіната будаўнічых матэрыялаў. Няма мазуту, якім паляць у печах. Пакуль што печы ледзь тлеюць, але вытворчасць бутэлек ужо спынена.

◆ **Закрыццё шклозавода Дамашэўскага камбіната пацягне за сабой і закрыццё разліўвачных цэхаў іншых прадпрыемстваў. Так, з-за адсутнасці шклатары ўжо прастойваюць цэхі Пінскага хімкамбіната, Баранавіцкага «Белмедбытхіма», Кобрынскага завода будаўнічых матэрыялаў.**

**Падрыхтавала Алена ШУМАРАВА.**

### Віцебская «коза ностра»

ВІЦЕБСК. Работнікі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй УУС Віцебскага аблвыканкома выявілі групу жыхароў горада, якая, выкарыстоўваючы абсталяванне і станкі прадпрыемства, на працягу 1990—1992 гадоў на высокім прафесіянальным узроўні займалася вырабам, рамонтам, скупкай, продажам і перапродажам агнястрэльнай зброі, глушыцеляў да яе.

У іх канфіскавана 4 рэвальверы, 3 пісталеты, 3 вінтоўкі з глушыцелямі, адзін нямецкі карабін, нямецкі фаўст-патрон часоў вайны, 2 гранаты, 2 карпусныя ствалы ад аўтамата і кулямёта, паляўнічая стрэльба з устаўным наразным ствалом пад патроны АКМ і аптычны прыцэл, 465 малакаліберных патронаў, 50 штук рэвальверных патронаў, 19 да ПМ і дзве абоймы, 6 узрывальнікаў, 4 радыёстанцыі, матэрыялы для вырабу зброі. Аддзел мае факты рэалізацыі зброі грамадзянам армянскай нацыянальнасці. Узбуджана крымінальная справа.

### БРУСЕЛЬ—АКНО Ў ЕЎРОПУ

**23 лютага ў Мінск прыбывае віцэ-прэзідэнт Камісіі еўрапейскіх супольніцтваў — выканаўчага органа Еўрапейскага эканамічнага супольніцтва — Ф. Н. Ж. Ж. Андрыесен. Гэтаму візіту ўрад Рэспублікі Беларусь надае вельмі важнае значэнне. Чым жа выклікана такая пільная цікавасць да заходняга госця? На пытанне карэспандэнта БЕЛТА адказвае намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларусі Міхаіл Дзямчук.**

У апошні час нямала гаворыцца аб тым, што Беларусь павінна ў поўнай меры ўвайсці ў супольніцтва еўрапейскіх народаў. І правільна гаворыцца. Але прыходзіцца канстатаваць і іншае: нашы спробы інтэгравацца ў Еўропу, яе эканоміку пакуль што разрозненыя і яўна слабыя. Гэта адзначаем не толькі мы, такой жа думкі прытрымліваюцца афіцыяльныя асобы і эксперты ЕЭС. Паводле майго глыбокага перакананя, пачынаць такую інтэграцыю трэба не столькі з чыста вытворчых, колькі з навукова-тэхнічных праграм. І, вядома ж, праграм, якія датычаць стварэння нармальнай інфраструктуры рынку. Яны цяпер на вастрыі канкурэнтаздольнай эканомікі. Калі мы навуку не «падцягнем», то ніколі не зможам стварыць той кадравы і тэхналагічны патэнцыял, які выведзе нашу вытворчасць на сучасны ўзровень.

У ходзе візіту пана Андрыесена маем намер дагаварыцца аб прынцыпах палітычнага, навукова-эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва ўжо ў канкрэтных формах. Рыхтуецца падпісанне пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь і Еўрапейскім эканамічным супольніцтвам. Размова ідзе аб тым, каб адкрыць у Мінску пастаяннае прадстаўніцтва ЕЭС. Зусім відавочна і тое, што нам трэба адкрываць сваё прадстаўніцтва ў Брусэлі. Пры ўрадзе рэспублікі павінен быць таксама нацыянальны каардынатар па сувязях з Еўрапейскім эканамічным супольніцтвам, які б працаваў з высокакваліфікаванымі экспертамі, якія прайшлі школу бізнесу.

### АБЛІГАЦЫІ НЕ ПАЛІЦЕ

**Многія набылі аблігацыі дзяржаўнай унутранай выйгрышнай пазыкі СССР 1982 года. Зараз Саюза як дзяржавы няма. А аблігацыі засталіся. Людзі хвалююцца, звоняць у рэдакцыі, у Мінфін, пытаюць: што рабіць — прападаюць грошы! Мы хочам супакоіць уладальнікаў гэтых каштоўных папер. Як стала вядома рэдакцыі з кампетэнтных крыніц, рашэнне па гэтаму пытанню ў Рэспубліцы Беларусь будзе прынята ў бліжэйшыя дні. І, як запэўнілі нас, грошы людзям будуць вернуты.**

### ЗЛАЧЫНЦЫ Ў БЕЛЫХ ХАЛАТАХ?

**БРАГІН. Па падазрэнню ў буйных крадзяжах гуманітарнай дапамогі затрыманы галоўны ўрач цэнтральнай бальніцы Васіль Перац і галоўная медсястра Людміла Рудзеня. У кватэрах Перца (адна з іх у Мінску), знойдзены скрынкі з кансервамі, шакалад, кава. На 40 тысяч рублёў далікатэсаў захоўвалася на момант вобыску і ў кватэры галоўнай медсястры. Цяпер следству трэба будзе высветліць, на каго з хворых усё гэта багацце спісвалася? Сумна, што пытанне гэтае прыйдзецца задаваць людзям у белых халатах.**



### ВАРАШЫЛАВА МОЖНА І НЕ ЎСПАМІНАЦЬ. А ВОСЬ САЛДАТА...

**23 лютага. У дзіцячым садку развучвалі вершыкі пра хуткіх танкістаў ці лётчыкаў, а таксама пра маршала Варашылава. У школе мы, хлапчукі, дарылі на 8 Сакавіка дзяўчатам кветкі або яшчэ якія-небудзь падарункі. Нешта такое абавязкова рабілася 23 лютага ў адносінах да нас жаночай палавінай класа. Універсітэт таксама глядзеў на гэта свята вельмі цёпла. Паштоўкі, усмешкі, пацалункі. Увечары хадзілі глядзець святочны салют. Ад армейскіх сустрэч Дня Савецкай Арміі і Ваенна-Марского Флоту засталося амаль такое ж адчуванне свята, хоць і адбівалі мы ў гэты дзень звычайна двухгадзінны святочны марш на пляцы ў 40-градусны мароз.**

**Непапулярным цяпер стала словазлучэнне «Савецкая Армія». Не такая яна ўжо і баявая, і непадкупная. І яшчэ шмат чаго не так, як у тых вершыках, якія я вучыў у дзіцячым садку і дэкламаваў у школе.**

**Але армія засталася. Засталіся ўспаміны ў кожнага, хто прайшоў гэтую школу.**

**Таму хочацца ўсміхнуцца ў адказ гэтаму хлопцу-салдату на здымку. Пажадаць хутчэйшага «дэмбеля». І павіншаваць са святам нашай арміі і нашага флоту. З нашым святам.**

**Упэўнены, што пры любым «раскладзе» Узброеных Сіл былога Саюза, пры любых скарачэннях і знішчэннях у гэты дзень у многіх сем'ях і калектывах будуць і кветкі, і ўсмешкі, і пацалункі. І гарачыя віншаванні. А можа нават і вершыкі. Неабавязкова пра маршала Варашылава, ці пра хуткасць нашых танкаў і самалётаў, а проста пра салдата і яго ратную працу. І гэта будзе правільна.**

**Аляксандр КОКТЫШ.**

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

### АДЗІН СЕАНС—І КУРЭЦ УЖО НЕКУРЭЦ

**ГОМЕЛЬ. (У. Пернікаў). Называецца фірма «Фобас». Яе спецыялісты арганізавалі прыём пацыентаў і робяць дыягностыку (здаецца, упершыню ў рэспубліцы) скрытых захворванняў чалавека па вушной ракавіне.**

**Урачы пазбаўляюць кліентаў і ад шкоднай прывычкі курыць. А калі хто з іх пасля першага сеанса ўсё ж смаліць цыгарэты, паўторная працэдура робіцца бясплатна.**

АСАБІСТЫ ПОГЛЯД

## З вялікага грому малы дождж

### атрымаўся ў час сустрэчы В. Кебіча з кіраўнікамі раённых Саветаў народных дэпутатаў

Ваяўнічы настрой учора раніцай вітаў у Вялікай зале Саўміна рэспублікі, дзе некалькі дзесяткаў дзелавых людзей, у аднолькавых касцюмах і гальштуках, сабраліся на рашучую і бескампрамісную размову. Строгія позіркі, засяроджаныя твары абяцалі мала прыемнага іх субяседніку — Старшыні Савета Міністраў рэспублікі В. Кебічу. У іх (прысутных) было што сказаць беларускаму прэм'еру аб сваіх праблемах і бедах. Хто-хто, а яны, пэўна, як ніхто іншы валодаюць інфармацыяй аб становішчы на месцах. А сабраліся ў зале ў асноўным старшыні гаррайсаветаў, адказныя работнікі выканкомаў сельскіх раёнаў, прадстаўнікі аблвыканкомаў. Карацей, сённяшняя рэальная раённая савецкая ўлада, носьбіты якой зараз набіраюцца розуму на курсах у Акадэміі кіравання Саўміна. Менавіта яны і запатрабавалі неадкладнай сустрэчы з С. Шушкевічам і В. Кебічам. Слухачы рашуча дабіваліся пастаўленай мэты: звярталіся ў Саўмін, Вярхоўны Савет. Рэзоны вылучалі слушныя: яны (Шушкевіч і Кебіч) ахвотна сустракаюцца з прадпрымальнікамі, калгаснікамі, вайскоўцамі, студэнтамі, а з імі, паўнамоцнымі прадстаўнікамі ўлады ў глыбінцы, вось ужо амаль два гады не могуць знайсці гадзіну-другую для шчырай размовы.

Крытыку ў абодвух крылах Дома ўрада прызналі справядлівай, і першым вырашыў прыняць на сябе агонь В. Кебіч.

Прызнаюся, я чакаў вострай і прадметнай размовы. Аднак сустрэча нагадвала добрую лекцыю на нядаўніх курсах павышэння кваліфікацыі кіруючых кадраў. Акрамя таго, на мой погляд, яна прадэманстравала відавочны рост В. Кебіча як палітыка і тактыка, які робіць поспехі ў авалоданні цяжкім майстэрствам сувязі з рознымі слаямі насельніцтва, кіраўніцтвам, настроем аўдыторыі.

Пачаў В. Кебіч з прызнання, што ўсе, з кім ён ні сустракаецца, адно толькі просяць: «Дай, дай, дай»... Ён бы даў, ды дзе ўзяць, калі эканоміка СНД уяўляе сабой надзвычай змрочную карціну: сувязі парушаны, пагадненні не выконваюцца, кожная з дзяржаў цягне коўдру на сябе і г. д. Такая вось пакуль Садружнасць.

В. Кебіч у даволі экспрэсіўнай манеры расказаў сваім уважлівым слухачам аб перыпетыях станаўлення СНД. Гэта, сапраўды, была свежая і цікавая інфармацыя. Яе падрабязнасці былі ўважліва выслуханы кіраўнікамі з месц.

Пра надзённыя праблемы таксама расказваў не менш цікава і змястоўна. Агульнае веданне прысутнымі становішча ў гаспадарцы рэспублікі Старшыня Саўміна дапоўніў настолькі злабадзённай інфармацыяй, што слухалі яго вельмі ўважліва. Напрыклад, аб тым, што Беларусі, магчыма, прыйдзецца набываць нафту ў хуткім будучым на Блізкім Усходзе — у Кувейце, Арабскіх Эміратах. Шмат іншай карыснай для роздуму інфармацыі пачулі кіраўнікі раённага маштабу.

На жаль, дэфіцыт газетнай плошчы не дазваляе больш поўна асвятліць погляд Старшыні на забеспячэнне рэспублікі нафтай, збожжам, цукрам, алеем, іншай прадукцыяй, на падатковую палітыку і маючыя адбыцца ў ёй змены.

Зрабіў В. Кебіч палітычную заяву наконт дэструктыўнай ролі сродкаў масавай інфармацыі, якія ў апошні час сваімі публікацыямі супрацьпастаўляюць Вярхоўны Савет ураду, урад — Вярхоўнаму Савету, Кебіча — Шушкевічу. «Ва ўрада няма ніякага супрацьстаяння з Вярхоўным Саветам, а ў мяне няма ніякіх негатыўных адносін да Вярхоўнага Савета. Нам нельга дапусціць канфрантацыі, у выніку якой перш за ўсё будзе цярпець народ»,—сказаў В. Кебіч.

На гэтым усё цікавае скончылася. Далей сустрэча нагадвала адказы прафесара на пытанні студэнтаў. Рабіў гэта В. Кебіч з гумарам. Так, на пытанне, чаму ў старшыні сельсавета зарплата ніжэйшая, чым у шафёра райсавета, ён выказаў такую думку: пэўна, таму, што той яшчэ возіць і жонку начальніка. Аднак абяцаў разабрацца з гэтым пытаннем. Як і з іншымі, што паставіла аўдыторыя.

Той размовы, на якую настройвалі сябе слухачы акадэміі, не атрымалася. Як кажуць у народзе: з вялікага грому — малы дождж. Можа, і правільна рабілі кіраўнікі рэспублікі, што не спяшаліся сустракацца з раённым «эшалонам» улады?

Але, думаецца, такія сустрэчы павінны стаць рэгулярнымі. Таму што, калі палітыка «варыцца» ўверсе, то «з'ядаецца» ўнізе.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА,**
**урадавы карэспандэнт «Звязды».**

*Ігар ПАЛЯЦІЛА:*

## «Усё можна вырашыць цывілізавана»

**Напэўна, няма ўжо сэнсу прыводзіць розныя пункты погляду на патрэбнасць або не ўсенароднага рэферэндуму наконт адстаўкі ўрада і роспуску Вярхоўнага Савета. Збор подпісаў ідзе і, відаць, нішто гэты працэс не спыніць. Тым не менш. Калі не зараз, то потым дэмакратыя запатрабуе ўліку інтарэсаў кожнай сацыяльна-прафесіянальнай групы, асабліва такой уплывовай, як кіраўніцтва прамысловымі прадпрыемствамі. Можна пагаджацца або не з палітычнай арыентацыяй генеральнага дырэктара станкабудаўнічага завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі І. Я. Паляцілы. Але выслухаць яго неабходна.**

**— Ігар Якаўлевіч, вы—«за», ці — «супраць»?**

— Дазволю сабе пачаць здалёк. Што мы маем? Еўропа доўга ішла менавіта да варыянта СССР, а не СНД. Мы ўсё разбурылі, але рана ці позна вернемся да таго, з чаго пачалі. Палітыкі зараз захоплены палітыкай, а ўсё ж пачынаюць прыслухоўвацца да гаспадарнікаў. С. С. Шушкевіч апошнім часам знаходзіць магчымасць для сустрэч з намі. А мы тлумачым яму адно: кожны цягне коўдру на сябе, сувязі практычна знішчаны і, каб Беларусь не апынулася ў бездані, неабходна інтэграцыя. Зараз ідзе дзікі некіруемы працэс. Рэгулятары адсутнічаюць. Асобны ўрад не можа нічога зрабіць. Толькі пры наяўнасці сістэмы, у большай ступені эканамічнай, чым палітычнай, мы маем нейкі шанц пры нашай беднасці рэсурсаў.

**— Гэта можна разумець так, што вы — не прыхільнік змены каманды?**

— Так. І вось чаму. Дапусцім, народ выкажацца за новы ўрад і перавыбары Вярхоўнага Савета. Гэта значыць, прыйдуць новыя людзі, з новымі поглядамі, але без вопыту. Хоць бы і чыста апаратнага. Ім патрэбен час для адаптацыі, а ці будзе чакаць народ? Я слухаў выступленне «ценявога» прэм'ера: там усё катэгарычна — толькі татальная прыватызацыя. А людзей хвалюе, што з імі будзе. Прыйдзе прыватнік, звольніць палавіну, што тады? Прыватнік не будзе ствараць новыя рабочыя месцы, на сацыяльных праграмах ён паставіць крыж.

**— Мне здаецца, вы малюеце занадта страшнага чорта. Калі ствараецца новая фірма, то што гэта, як не новыя рабочыя месцы? Рабочы пойдзе туды.**

— Я не супраць прыватызацыі наогул. Без яе не абысціся, але праводзіць яе трэба паступова. Маргарэт Тэтчэр і пад канец сваёй палітычнай кар'еры не завяршыла пачатай прыватызацыі. У капіталізм трэба ўрастаць, гэта не купанне, каб кідацца ў ваду ўсім і адразу. Хопіць, што так мы «будавалі» сацыялізм. А вось хто можа купіць завод? Вы, я, урач, рабочы? Не. Купіць той, у каго ёсць грошы. І калектыў завода хвалюецца, думаю, недарэмна.

**— Прабачце, Ігар Якаўлевіч, вось мой прыклад. Еду ў «маршрутцы», адна жанчына гаворыць: «Няхай бы наш завод ці немец, ці японец купіў». І з такім, ведаеце, сумам сказала. Я гэта да таго, што плюралізм думак усё ж такі існуе...**

— А вось вам мой прыклад. Два гады назад мы прадавалі за мяжу ў 2—3 разы больш прадукцыі, чым цяпер. Зараз нам прама кажуць, звязвацца з вамі небяспечна, вы — нестабільная рэспубліка. Ёсць дамоўленасць з немцамі аб стварэнні СП. Вось-вось павінны былі падпісаць дакументы аб супрацоўніцтве ў поўным аб'ёме. Сёння нашы партнёры адступілі, збіраюцца зніжаць аб'ёмы ўдзелу ў прадпрыемстве. Аказваецца, іх палітолагі высветлілі, што Беларусь апынулася ў ліку рэгіёнаў, дзе адсутнічае стабільнасць у сферы палітыкі. Я іх разумею: новы ўрад — новая палітыка— магчыма, новы ўласнік завода. І як ён абыдзецца з дагаворам аб СП, — невядома. А невядома — гэта страты.

**— Ваш прыклад прымаецца. Але як быць з Польшчай?**

— А ніяк. Паліцы польскіх магазінаў завалены таварамі замежнай вытворчасці. А дзе польскія? Іх заводы спыняюцца і распрадаюцца. Гэта — вынік шокатэрапіі. Асабіста мне больш падабаецца шлях Чэха-Славакіі, шлях эвалюцыі. Ніякіх перабудоў, ператрасанняў наша эканоміка зараз не вытрымае. Як бы там ні было, а асноўную масу тавараў даюць пакуль дзяржпрадпрыемствы. Прыватніку трэба даць дарогу, але перш чым ён стане на ногі, пройдзе пэўны час.

**— Ігар Якаўлевіч, тым не менш, і Вярхоўны Савет, і Саўмін, скажам так, маюць у сваім саставе не самых выдатных прафесіяналаў.**

— Гэтую праблему можна вырашыць цывілізавана. Некампетэнтных дэпутатаў —адазваць, тое ж самае — замяніць некаторых членаў урада, работнікаў апарату Саўміна. Я ведаю многіх людзей і сярод вышэйшай наменклатуры, і сярод апазіцыі: і там, і там, прабачце, ёсць дурні і ёсць разумныя. Але толькі па гэтай прычыне мяняць урад? Лес сякуць — трэскі ляцяць? Гэта мы ўжо праходзілі.

**— Дзякуй.**

**КАМЕНТАРЫЙ. Пры ўсёй павазе да субяседніка, неабходна адзначыць: незадаволенасць менавіта шырокіх колаў грамадства сваім кіраўніцтвам выспявала не дзень, не два. Яна ёсць, і лічыцца з гэтым трэба кожнаму палітыку. Я таксама прыхільнік эвалюцыі, рэвалюцыі крыху надакучылі. Сапраўды, хочацца спакою і стабільнасці, не хочацца апынуцца заўтра на вуліцы з выхадной дапамогай на руках. Праўда, эвалюцыяніраваць трэба, так бы мовіць, таксама з густам. Каб інтарэсы ўсіх хоць больш-менш улічваліся. У рэшце рэшт, апошняе слова — за намі ўсімі ў цэлым — жыхарамі Рэспублікі Беларусь.**

**Гутарыў Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

# Аб стаўках дзяржаўнай пошліны

У сувязі з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь ад 10 студзеня 1992 года «Аб дзяржаўнай пошліне» Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць прыкладаемыя стаўкі дзяржаўнай пошліны.

2. Рэкамендаваць выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў накіроўваць 2 працэнты сродкаў, якія паступаюць у мясцовыя бюджэты ад спагнання дзяржаўнай пошліны органамі ўнутраных спраў рэспублікі, на развіццё матэрыяльнай базы службы віз і дазволаў гэтых органаў.

Міністэрству фінансаў і Міністэрству ўнутраных спраў распрацаваць і зацвердзіць парадак пералічэння ўказаных сродкаў на развіццё службы віз і дазволаў органаў унутраных спраў рэспублікі.

3. Прызнаць страціўшымі сілу пастанову Савета Міністраў БССР ад 15 ліпеня 1991 г. № 276 «Аб устанаўленні ставак дзяржаўнай пошліны за натарыяльнае засведчанне дагавораў куплі-продажу аўтамабіляў, матацыклаў і іншых транспартных сродкаў» (СП БССР, 1991 г., № 19—20, стар. 250) і пункт 3 пастановы Савета Міністраў БССР ад 5 ліпеня 1991 г. № 264 «Аб мерах па рэалізацыі Закона СССР ад 20 мая 1991 г., які рэгулюе парадак выезду за мяжу і ўезда ў Беларускую ССР» (СП БССР, 1991 г., № 19—20, стар. 238; № 22, стар. 285).

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**В. КЕБІЧ.**
**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**М. КАЎКО.**
14 лютага 1992 г., г. Мінск.

ЗАЦВЕРДЖАНЫ ПАСТАНОВАЙ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 14 ЛЮТАГА 1992 г. № 85.

# СТАЎКІ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПОШЛІНЫ

| Назва дакументаў і дзеянняў, за якія спаганяецца пошліна | Размер пошліны (рублёў) |
|---|---|
| **1. З заяў і скаргаў, падаваемых у суд, і за выдачу судом копій дакументаў:** | |
| 1.1. з іскавых заяў, у тым ліку сустрэчных, і заяў трэціх асоб, якія змяшчаюць самастойныя патрабаванні на прадмет спрэчкі ва ўжо распачатым працэсе, а таксама са скаргаў на пастановы аб накладанні адміністрацыйных і іншых штрафаў пры цане іску: | |
| да 1.000 рублёў | 6 працэнтаў цаны іску |
| звыш 1.000 да 5.000 рублёў | 8 працэнтаў цаны іску |
| звыш 5.000 рублёў | 10 працэнтаў цаны іску |
| 1.2. са скаргаў на неправаверныя дзеянні органаў дзяржаўнага кіравання і службовых асоб, што ўшчамляюць правы грамадзян | 100 |
| 1.3. з іскавых заяў: | |
| аб скасаванні шлюбу | 100 |
| аб скасаванні паўторнага шлюбу | 150 |
| у выпадку раздзелу маёмасці пры скасаванні шлюбу | размер пошліны вызначаецца па цане іску ў адпаведнасці з пунктам 1.1 |
| 1.4. з іскавых заяў аб скасаванні шлюбу з асобамі, прызнанымі ва ўстаноўленым парадку адсутнымі без вестак ці недзеяздольнымі, а таксама з іскавых заяў істцоў аб скасаванні шлюбу з асобамі, асуджанымі да пазбаўлення волі на тэрмін не менш 3 гадоў | 25 |
| 1.5. з іскавых заяў аб змяненні ці скасаванні дагавора найму жылых памяшканняў, аб прадаўжэнні тэрміну прыняцця спадчыны, аб вызваленні маёмасці ад арышту і з іншых іскавых заяў немаёмаснага характару (або якія не падлягаюць ацэнцы) | 100 |
| 1.6. з заяў (скаргаў) па справах асобага выканання | 100 |
| 1.7. з заяў(скаргаў), што складаюцца з некалькіх самастойных патрабаванняў | за кожнае патрабаванне паасобку |
| 1.8. з касацыйных і пярвічных наглядных скаргаў на рашэнні судоў і пастановы аб зацвярджэнні міравых пагадненняў | 50 працэнтаў стаўкі, устаноўленай на падачу іскавай ці іншай заявы і скаргі, а па маёмасных спрэчках—стаўкі, налічанай зыходзячы з аспрэчваемай сумы |
| 1.9. за паўторную выдачу копіі судовага рашэння, прыгавора, пастановы, і іншай пастановы суда | 5 рублёў і, акрамя таго, 1 рубель за кожную зробленую старонку |
| 1.10. з паўторных наглядных скаргаў | 50 працэнтаў стаўкі, указанай у пункце 1.8 |
| 1.11. з прыватных скаргаў, пададзеных у касацыйным парадку на рашэнні судоў, якімі не былі вырашаны справы па сутнасці (акрамя скаргаў, указаных у пункце 1.8) | 25 |
| 1.12. з пярвічных наглядных скаргаў на прыгаворы судоў у частцы асуджэння ці апраўдання | 50 |
| 1.13. з наглядных скаргаў на прыгаворы судоў у частцы вырашэння грамадзянскага іску | па стаўках, указаных у пунктах 1.8 і 1.10 |
| **2. З заяў і скаргаў, падаваемых у органы пракуратуры:** | |
| 2.1. з наглядных скаргаў (пярвічных і паўторных) на рашэнні судоў і пастановы аб зацвярджэнні міравых пагадненняў | па стаўках, указаных у пунктах 1.8 і 1.10 |
| 2.2. з наглядных скаргаў (пярвічных і паўторных) на прыгаворы судоў у частцы асуджэння ці апраўдання | 50 |
| 2.3. з наглядных скаргаў (пярвічных і паўторных) на прыгаворы судоў у частцы вырашэння грамадзянскага іску | па стаўках, указаных у пунктах 1.8 і 1.10 |
| 2.4. за паўторную выдачу копій пастаноў органаў пракуратуры аб спыненні крымінальнай справы, аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы | 5 рублёў і, акрамя таго, 1 рубель за кожную зробленую старонку |
| **3. З заяў і скаргаў, падаваемых у гаспадарчыя суды:** | |
| 3.1. з іскавых заяў маёмаснага характару | 10 працэнтаў цаны іску, але не менш за 100 рублёў |
| 3.2. з іскавых заяў немаёмаснага характару, у тым ліку з заяў юрыдычных асоб аб прызнанні актаў органаў дзяржаўнага кіравання ці іншых органаў несапраўднымі цалкам або часткова | 500 |
| 3.3 з іскавых заяў па спрэчках, узнікаючых пры заключэнні, змяненні ці скасаванні гаспадарчых дагавораў, што падлягаюць разгляду: | |
| у Вышэйшым гаспадарчым судзе | 1.000 |
| у іншых гаспадарчых судах | 500 |
| 3.4. з заяў аб пераглядзе рашэнняў гаспадарчага суда | 50 працэнтаў стаўкі, устаноўленай за заяву для разгляду спрэчкі ў першай інстанцыі, а па спрэчках маёмаснага характару—стаўкі, налічанай зыходзячы з аспрэчваемай сумы |
| 3.5 за выдачу дублікатаў загадаў, копій рашэнняў, пастаноў, іншых пастаноў гаспадарчага суда і копій іншых дакументаў са справы, выдаваемых судом па просьбе бакоў і іншых асоб, што ўдзельнічаюць у справе | 10 рублёў і, акрамя таго, 1 рубель за кожную зробленую старонку |
| **4. За натарыяльныя дзеянні, што выконваюцца натарыяльнымі канторамі* і выканаўчымі органамі гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў:** | |
| 4.1. за засведчанне дагавораў адчужэння жылых дамоў, кватэр, дач, садовых домікаў, гаражоў, іншых памяшканняў, збудаванняў і пабудоў | 900 |
| 4.2. за засведчанне дагавораў адчужэння аўтамабіляў, матацыклаў з магутнасцю матора звыш 10 конскіх сіл | 1.100 |
| 4.3. за засведчанне іншых дагавораў, што падлягаюць ацэнцы | 400 |
| 4.4. за засведчанне дагавораў раздзелу маёмасці, дагавораў паручыцельства і іншых здзелак, якія не падлягаюць ацэнцы | 50 |
| 4.5 за засведчанне завяшчанняў | 10 |
| 4.6. за выдачу пасведчанняў аб праве на спадчыну | 550 |
| 4.7. за выдачу мужу і жонцы пасведчання аб праве ўласнасці на долю ў агульнай маёмасці, нажытай у час шлюбу | 10 |
| 4.8. за засведчанне даверанасцей на права карыстання і распараджэння маёмасцю і на правядзенне крэдытных аперацый | 20 |
| 4.9. за засведчанне даверанасцей на права карыстання і распараджэння аўтамотатранспартнымі сродкамі | 50 |
| 4.10. за засведчанне іншых даверанасцей | 10 |
| 4.11. за прыняцце мер да аховы спадчыннай маёмасці | 150 |
| 4.12. за сведчанне правільнасці перакладу дакумента з адной мовы на другую | 5 (за старонку) |
| 4.13. за ўчыненне выканаўчых надпісаў | 5 |
| 4.14. за сведчанне правільнасці копій дакументаў і выпісак з іх | 3 (за старонку) |
| 4.15. за сведчанне сапраўднасці подпісу на дакументах, у тым ліку перакладчыка | 5 (за кожны дакумент) |
| 4.16. за перадачу заяў юрыдычных і фізічных асоб іншым юрыдычным і фізічным асобам і выкананне іншых натарыяльных дзеянняў, акрамя дзеянняў, указаных у пунктах 4.1—4.15 | 10 |
| 4.17. за састаўленне праектаў і выраб дакументаў у выканаўчых органах гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў: | |
| дакументаў, даверанасцей і іх копій | 2 |
| заяў | 3 |
| завяшчанняў | 4 |
| дагавораў адчужэння жылых дамоў | 5 |
| іншых дагавораў | 6 |
| 4.18. за выдачу дублікатаў натарыяльна засведчаных дакументаў | 10 |
| 4.19. за натарыяльныя дзеянні па забеспячэнню доказаў, патрэбных для вядзення спраў у органах замежных дзяржаў | 10 (за кожны дакумент) |
| 4.20. за сведчанне сапраўднасці подпісаў пры адкрыцці рахункаў у банках | 50 |
| **5. За выкананне актаў грамадзянскага стану:** | |
| 5.1. за рэгістрацыю шлюбу | 15 |
| 5.2. за рэгістрацыю скасавання шлюбу: | |
| па ўзаемнай згодзе мужа і жонкі, якія не маюць непаўналетніх дзяцей | 200 |
| на падставе рашэння суда, калі муж і жонка ці адзін з іх знаходзяцца ў першым шлюбе | ад 200 да 300 (з аднаго ці абодвух) |
| на падставе рашэння суда, калі муж і жонка знаходзяцца ў паўторным шлюбе | ад 300 да 400 (з аднаго ці абодвух) |
| з асобамі, прызнанымі ва ўстаноўленым парадку адсутнымі без вестак ці недзеяздольнымі ў выніку душэўнай хваробы ці прыдуркаватасці, або з асобамі, асуджанымі да пазбаўлення волі на тэрмін не менш за 3 гады | 5 |
| 5.3. за рэгістрацыю перамены прозвішча, імя і імя па бацьку | 200 |
| 5.4. за выдачу пасведчанняў у сувязі са змяненнем, дапаўненнем, выпраўленнем і аднаўленнем запісаў актаў грамадзянскага стану | 5 |
| 5.5. за выдачу паўторных пасведчанняў аб рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану | 10 |
| **6. За выдачу дакументаў на права выезду за мяжу і ўезду з-за мяжы:** | |
| 6.1. за выдачу грамадзяніну Рэспублікі Беларусь замежнага пашпарта на права выезду за мяжу на пастаяннае месца жыхарства | 1.000 |
| 6.2. за выдачу грамадзяніну Рэспублікі Беларусь замежнага пашпарта на права выезду за мяжу для часовага пражывання | 400 |
| 6.3. за выдачу грамадзяніну Рэспублікі Беларусь дазволу на права выезду за мяжу і ўчыненне ў замежным пашпарце дазвольнага запісу незалежна ад мэты выезду* | 200 |
| 6.4. за выдачу да пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь укладыша і дазволу на права выезду за мяжу | 200 |
| 6.5. за выдачу асобе без грамадзянства дазволу і дакументаў на права выезду за мяжу незалежна ад мэты выезду | 200 |
| 6.6. за выдачу да замежнага пашпарта ці дакумента, што яго замяняе, візы на выезд за мяжу | 50 |
| 6.7. за выдачу замежнага пашпарта ці дакумента, што яго замяняе, візы на выезд за мяжу і ўезд з-за мяжы* | 100 |
| 6.8. за выдачу грамадзянам Рэспублікі Беларусь, замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства дакументаў аб запрашэнні з-за мяжы | 50 |
| 6.9. за ўнясенне якіх-небудзь змяненняў у раней выдадзеныя дакументы, указаныя ў пунктах 6.1—6.8 | 50 |
| 6.10. за выдачу ці прадаўжэнне пасведчання на права жыхарства замежнаму грамадзяніну і асобе без грамадзянства | 50 |
| 6.11. за рэгістрацыю ці прадаўжэнне тэрміну дзеяння рэгістрацыі замежных пашпартоў ці дакументаў, што яго замяняюць | 20 |
| 6.12. за выдачу замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства пасведчання на права жыхарства ўзамен згубленага | 100 |
| 6.13. з заяў аб прыёме ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь | 100 |
| 6.14. з заяў аб выхадзе з грамадзянства Рэспублікі Беларусь | 500 |
| 6.15. за выдачу замежных пашпартоў ці дакументаў, што іх замяняюць, укладышаў да пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь на права выезду за мяжу, дакументаў аб запрашэнні з-за мяжы і віз узамен згубленых | у размерах, указаных адпаведна ў пунктах 6.1, 6,2, 6.4—6.8 |
| **7. За выкананне іншых дзеянняў:** | |
| 7.1. за прапіску грамадзян | 3 |
| 7.2. за прадастаўленне права на паляванне | 5 |
| 7.3 за выплату грамадзянам грашовых пераводаў, што прыходзяць з-за мяжы | 20 працэнтаў сумы пераводу |

* За натарыяльныя дзеянні, што выконваюцца па-за памяшканнямі натарыяльнай канторы ці іншых устаноў, якія выконваюць натарыяльныя дзеянні, пошліна спаганяецца ў двайным размеры, у тым ліку і за састаўленне праектаў і выраб дакументаў. Пры гэтым павінны быць аплачаны фактычна зробленыя расходы, звязаныя з выездам для здзяйснення гэтых дзеянняў.

* Размер дзяржаўнай пошліны павялічваецца ў 5 разоў за ўчыненне ў замежных дакументах адзнакі «шматразова».

**Заўвага.** Па заявах грамадзян і арганізацый аб афармленні дакументаў і дазволаў на права выезду за мяжу і ўезду ў Рэспубліку Беларусь у тэрміновым парадку, акрамя выпадкаў выезду (уезду) ў сувязі з цяжкай хваробай ці смерцю блізкіх сваякоў (бацькоў, дзяцей, мужа і жонкі, родных братоў і сясцёр), размер дзяржаўнай пошліны павялічваецца на 50 працэнтаў. Пры гэтым тэрмін выканання такіх заяў — да 5 рабочых дзён.

**Заўвага.** Не спаганяецца дзяржаўная пошліна з грашовых пераводаў, што прыходзяць з-за мяжы: аліментаў; сум, што паступаюць у парадку атрымання спадчыны; аўтарскай платы, залічанай ва ўстаноўленым парадку на рахунак агенцтва па аўтарскіх правах; сум, паступаючых у пакрыццё нанесенай шкоды; сум, выручаных ад продажу маёмасці, што належыць грамадзянам, і атрыманых па іншых справах маёмаснага характару, уключаючы сумы, што належаць рээмігрантам і рэпатрыянтам; сум, паступаючых ад работнікаў устаноў Рэспублікі Беларусь, размешчаных за мяжой, і ад работнікаў, часова камандзіраваных з Рэспублікі Беларусь за мяжу; сум, паступаючых ад ваеннаслужачых, рабочых і служачых воінскіх часцей і арганізацый Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь і Міністэрства абароны СНД па паштовых пераводах, прынятых у палявых поштах; пенсій.

ХТО ЁСЦЬ ХТО?

# Нацыянал-дэмакраты: «Не лічыце нас самымі «правымі»

**Віктар Іванавіч Навуменка — старшыня Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. 43 гады. Жанаты, мае дваіх дзяцей.**

**Супадзенне яго прозвішча з прозвішчам акадэміка Івана Навуменкі — невыпадковае. Лідэр нацыянал-дэмакратаў — родны сын вядомага пісьменніка, але пад адным дахам з бацькам, па яго словах, не жыў. Родам з Гомельшчыны. Па адукацыі фізік. Працуе старшым навуковым супрацоўнікам НДІ прыкладных фізічных праблем Белдзяржуніверсітэта.**

**У палітыку прыйшоў разам з «народнафронтаўцамі» — у час нараджэння аргкамітэта па стварэнню БНФ. Пасля першага ж з'езда БНФ разам з групай аднадумцаў схіліўся да пераканання, што патрэбна больш радыкальная палітычная сіла. Ідэю ўдалося ажыццявіць у чэрвені 1990 года—тады была створана НДПБ.**



**— Большасць зарэгістраваных на Беларусі палітычных партый у сваіх назвах у розных формах ужываюць азначэнне «дэмакратычная». Недасведчаным у нюансах і адценнях мудрагелістых дэфініцый людзям цяжка зарыентавацца ў гэтай разнастайнасці дэмакратычных сіл, зразумець розніцу паміж імі. Таму мы нярэдка атрымліваем ад чытачоў пытанні: чым Нацыянальна-дэмакратычная партыя адрозніваецца ад Аб'яднанай дэмакратычнай або Сацыял-дэмакратычнай грамады? Як бы вы адказалі на гэтыя пытанні?**

— Што да грамады, то яе платформу дастаткова поўна характарызуе першая частка назвы гэтай партыі — «сацыял». Не буду сцвярджаць, што БСДГ адназначна выступае за ўдасканаленне або будаўніцтва сацыялізму, але тое, што яе лідэры неаднаразова заяўлялі пра інтарэсы чалавека наёмнай працы як галоўны клопат партыі, — магу сказаць пэўна. Мы — супраць размежавання, падзелу людзей па сацыяльнай прыкмеце, адстойвання інтарэсаў нейкага аднаго класа ці групы. Гэтым, на нашу думку, могуць займацца прафсаюзы.

Калі ж казаць пра лібералаў — Аб'яднаную дэмакратычную партыю, — то яны даволі туманна, абыякава ставяцца да праблем нацыянальнага адраджэння, і ўвогуле — ролі нацыі ў развіцці грамадства. Мы з такой пазіцыяй пагадзіцца не можам.

**— У двух словах — пра асноўны праграмны накірунак вашай партыі на сённяшні дзень.**

— Калі вельмі коратка: дабіцца таго, каб беларускі этнас, беларуская нацыя заняла дастойнае месца. Каб мы ў сваёй дзяржаве сталі гаспадарамі, паставілі сваю культуру, мову на належны ўзровень. Каб мы не залежалі больш ад «старэйшых братоў».

**— Многіх непакоіць ваша аднабаковая накіраванасць, апора толькі на беларускую нацыю.**

— Мы не адмаўляем у праве на існаванне на беларускай зямлі этнасаў, якія маюць тут гістарычныя карані. Яўрэі, палякі, татары, рускія-стараверы, што жывуць тут шмат стагоддзяў, арганічна ўпісаліся ў нашу культуру, адначасова захоўваючы і развіваючы сваю. Але лічым, што ў першую чаргу трэба памятаць пра карэнную нацыю. Мы ўжо маем горкі вопыт, калі ва ўгоду ідэям аднабакова трактаванага інтэрнацыяналізму прыніжалі і зневажалі культуру, мову, гісторыю нашага народа.

**— Вас не бянтэжыць, што нацыянальна - дэмакратычныя партыі ў іншых краінах займаюць звычайна правы фланг на палітычнай шкале?**

— Не зусім згодзен з вамі. Тыя партыі, якія называюць сябе дэмакратычнымі, у агульным раскладзе сіл не могуць быць самымі правымі. На правым фланзе — нацыянальныя франты, народныя партыі, нацыянальныя партыі. Дэмакратычная накіраванасць прымушае нас быць левымі.

**— Дзе ж у такім разе ваша месца ў сённяшняй шарэнзе палітычных сіл на Беларусі?**

— Адназначна адказаць цяжка. З традыцыйнага пункту гледжання, відаць, нас можна запісаць у правыя. Прынамсі, мы правей за БСДГ, — выступаем за прыярытэт прыватнай уласнасці. Але ж адначасова мы— партыя дэмакратычная, радыкальная, выступаем супраць кансерватызму камуністычных лідэраў, за прагрэсіўныя перамены. І ў гэтым сэнсе лічым сябе левымі. Так што тую сістэму падзелу на правых і левых, якая існавала да нядаўняга часу, мы лічым састарэлай: яна не адлюстроўвае адэкватна сённяшнія рэаліі. Нам проста трэба разабрацца, каго сёння можна называць правым, а каго — левым.

**— Ці шмат прыхільнікаў у вашай партыі?**

— Па статуту ў нас ёсць члены партыі і ёсць сябры партыі, якія не маюць права вырашальнага голаса. Усіх разам каля трохсот.

**— Ці ёсць сярод вас не беларусы?**

— Няшмат, але ёсць.

**— Вас не засмучае той факт, што пры цяперашнім узроўні нацыянальнай свядомасці беларусаў папулярнасць вашай партыі не можа быць высокай?**

— Я гэта ведаў загадзя і таму не чакаю вялікага плёну ў блізкім часе. Але нашы шэрагі растуць: не праходзіць і тыдня, каб мы не атрымалі некалькіх лістоў з просьбай аб прыёме ў партыю. Прытым большасць лістоў прыходзіць з перыферыі, — што нас вельмі радуе.

**— Ці распрацавана партыяй праграма эканамічных пераўтварэнняў у рэспубліцы?**

— Разгорнутай праграмы пакуль што няма: яна напрацоўваецца. Ёсць асноўныя рысы, праграмныя прынцыпы.

На жаль, у нашых шэрагах няма знакамітых эканамістаў, таму мы і не спадзяёмся, што зробім эканамічную праграму, лепшую за тыя, што распрацавалі аб'яднаныя дэмакраты ці грамадоўцы. Відаць, у многім будзе арыентавацца на распрацоўкі іншых, — у прыватнасці, на праграму БНФ, у які мы ўваходзім на правах калектыўнага члена, падпісаўшы з ім асацыятыўнае пагадненне.

З другога боку, асабіста я не лічу, што эканоміка зараз — галоўнае для беларускай нацыі. Калі б народ быў аб'яднаны нацыянальнай ідэяй, ён здолеў бы вытрымаць і большыя нястачы, — прыклад Прыбалтыкі гэта добра паказвае. Але паяднання гэтага няма — і таму нашы людзі лічаць галоўнымі эканамічныя цяжкасці.

А ўвогуле, у галіне эканомікі наша партыя аддае прыярытэт прыватнай уласнасці, раздзяржаўленню і прыватызацыі, дэманапалізацыі.

**— Напачатку ваша партыя падтрымала ідэю блоку дэмакратычных сіл «Новая Беларусь». Цяпер пра ўдзел НДПБ у гэтым блоку нешта не чуваць.**

— Так, не паспеўшы ўвайсці ў «Новую Беларусь», мы тут жа з яе выйшлі, пакінуўшы за сабой права трымаць там назіральніка.

Блок не атрымаўся — Грамаду падтрымала толькі сялянская партыя і прафсаюзы. Так што гэта аб'яднанне наўрад ці будзе жыццяздольным.

**— Ваш кароткі прагноз аб развіцці палітычных падзей на Беларусі ў бліжэйшы час.**

— Рэферэндум аб датэрміновых выбарах Вярхоўнага Савета, пра які цяпер шмат гавораць, хутчэй за ўсё адбудзецца: вельмі шмат палітычных сіл падтрымліваюць гэту ідэю. Наменклатурныя гульні могуць замарудзіць гэты працэс, але наўрад ці сарвуць яго. За гэты час парламент і ўрад яшчэ больш дыскрэдытуюць сябе ў вачах людзей, — і дэмакратычныя сілы маюць усе шанцы перамагчы на будучых выбарах.

**— На якія сацыяльныя слаі ў асноўным абапіраецца НДПБ?**

— Чамусьці многія лічаць, што сярод нас большасць — мастакі, пісьменнікі і г. д. На справе — зусім інакш. Мы апіраемся ў асноўным на людзей так званага «сярэдняга класа» — інжынерна-тэхнічных работнікаў, урачоў, навукоўцаў і г. д.

**— Сярод прыхільнікаў вашай партыі ёсць людзі, чые імёны добра вядомы на Беларусі?**

— Да нядаўняга часу такіх імёнаў не было. Але з восені мінулага года адным з кіраўнікоў нашай партыі стаў вядомы беларускі гісторык Мікола Ермаловіч.

**— Мікола Ермаловіч, як і вы, — старшыня партыі?**

— Так. А трэці наш старшыня — Анатоль Астапенка, выкладчык тэхналагічнага інстытута. Чаму мы вырашылі мець трох старшынь, а не аднаго? З-за боязі хваробы «вождизма», рэцыдывы якой мы назіралі на прыкладзе БНФ. Я нічога дрэннага не хачу сказаць у адрас З. Пазьняка, але калі збоку назіраеш, з якой адданасцю глядзяць яму ў рот, — робіцца ніякавата. Мы такой з'явы ў сваёй партыі мець не хочам.

**— Якая з ужо існуючых партый бліжэй за ўсё да НДПБ па сваёй ідэйнай платформе і якая далей за ўсё?**

— Бліжэй за ўсё, відавочна, БНФ, хоць гэта і не партыя, а рух. А далей за ўсё — Партыя камуністаў Беларусі.

**Гутарыў**
**Валянцін ЖДАНКО,**
**палітычны аглядальнік «Звязды».**



Творчасць Алены **Лось** добра знаёмая аматарам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У яе руках сухая жытнёвая саломка зноў набывае пругкасць жывой расліны, пераплятаецца ў дзівосных карунках, поўніцца залацістым сонечным бляскам.

— Хутка пляцёнкі стануць яшчэ прыгажэйшымі, — дзеліцца Алена, — у мяне падрастае добрая памочніца — дачка Маруся.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

